

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнага Савету
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. — Падпіская плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.
VII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 10 (111) | 30 чэрвеня 1931 г. | № 10 (111)



## З Ь М Е С Т





# Тлумачэньне і пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

## 43. Тлумачэньне пра кампэнсацыю банкаўскіх работнікаў і служачых установаў за работу 1-га і 2-га мая.

Народны Камісарыят Працы БССР тлумачыць:

Кампэнсацыя за работу банкаўскіх работнікаў, а таксама служачых іншых установаў, якія працавалі з дазволу органаў НК Працы ў дні 1-га і 2-га мая, дапушчаецца праз прадастаўленьне іншых выхадных дзён, або далучэньне іх да чарговага водпуску.

Грашовая кампэнсацыя за работу ў гэтыя дні забараняецца.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Ф. Пушчын.**

Заг. Сэктару Арганізацыі і Аздараўленьня ўмоў працы НКП **З. Іофэ.**

15 мая 1931 г.
№ 19/87

## 44. Пра водпускі для работнікаў вышэйшых навучальных школ і навуковых установаў.

У зьмену пастановы сваёй за 15/VI-1930 г. № 37 (Бюл. СНК БССР 1930 г. № 14) НК Працы БССР пастанавіў:

1. Двухмесячным водпускам на працягу ўсяго году карыстаюцца работнікі, якія вядуць пэдагагічную работу ў вышэйшых школах, і работнікі навуковых установаў, менавіта:
   а) прарэктары навучальных частак,
   б) дэканы,
   в) прафэсары,
   г) акадэмікі,
   д) дацэнты,
   е) асыстэнты.
2. Кіраўнікі навукова-дасьледчай працы ў ВНУ і навуковых установах, а менавіта: загадчыкі аддзелаў, лябараторый і навукова-дасьледчых габінэтаў карыстаюцца водпускам у 6 тыдняў, г. зн. 36 рабочых дзён.
3. Усе іншыя навуковыя працаўнікі вышэйшых школ і навуковых установаў карыстаюцца месячным адпачынкам.
4. Навукова-тэхнічныя работнікі і ўсе тэхнічныя працаўнікі ВНУ і навуковых установаў карыстаюцца звычайным водпускам у адпаведнасьці з правіламі аб чарговых і дадатковых водпусках, зацьверджаных НК Працы СССР 30/IV-1930 г. за № 169 („Изв. НКТ СССР“ 1930 г., № 13).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Ф. Пушчын.**

Загадчык Сэктару Арганізацыі і Аздараўленьня ўмоў працы НКП БССР **З. Іофэ.**

19 мая 1931 г.
№ 15/88.

### 45. Пра расцэнкі аплаты працы на лесанарыхтоўчых і сплаўных работах.

На падставе пастановы НК Працы БССР за 11 чэрвеня 1931 г. № 142 „Пра перагляд расцэнак аплаты працы на лесанарыхтоўках і сплаве“ Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Расцэнкі аплаты працы на лесанарыхтоўчых і сплаўных работах, распрацаваныя Трэстам „Лесбел“ і БРК Саюзу Лесдрэўрабочых зацьвердзіць і заключаную па гэтым пытаньні тарыфную згоду зарэгістраваць.

2. Паказаныя ў п. 1 расцэнкі ўвесьці з I/VI 1931 г.

3. У зьвязку з гэтым скасаваць пастанову НК Працы БССР за 15/X-1930 г. № 52 „Пра ўніфікацыю аплаты працы за нарыхтоўку і разьдзелку дровалесаматарыялаў“ (Бюл. СНК БССР 1930 г. № 22) і за 28/XI-1930 г. № 61 (Бюл. СНК БССР 1930 г., № 26).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Ф. Пушчын.**

Загадчык Сэктару Арганізацыі і Аздараўленьня ўмоў працы НКП БССР **З. Іофэ.**

20 чэрвеня 1931 г.
№ 25.

### 46. Пра захаваньне заработнае платы за рабочымі і служачымі, абранымі дэлегатамі Усебеларускага Зьезду Рабселькораў.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанавіў:

За усімі рабочымі і служачымі, якія абраны ва ўстаноўленым парадку дэлегатамі Усебеларускага Зьезду Рабселькораў, захоўваецца за ўвесь час работы Зьезду і знаходжаньня ў дарозе сярэдняя зарплата па месцу работы.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Ф. Пушчын.**

20 чэрвеня 1931 г.
№ 26.

### 47. Пра парадак правядзеньня платнае працоўнай і гужавой павіннасьці ў БССР.

(Выдадзена на падставе пастановы СНК БССР за 3/V-1931 г.)

1. Працоўная і гужавая павіннасьць ужываюцца: пры лесанарыхтоўках, хлебазагатоўках, дарожным будаўніцтве і для патрэб вайсковага ведамства.

2. Працгужпавіннасьць для паказаных вышэй мэт уводзіцца ў кожным асобным выпадку паводле пастановы СНК БССР і праз выданьне спэцыяльнае абавязковае пастановы адпаведным РВК (гарсаветам).

Хадайніцтвы аб увядзеньні у тым ці іншым раёне працгужпавіннасьці падаюцца адпаведнымі гаспадарчымі арганізацыямі або рай-

выканкомамі у СНК БССР абавязкова праз Народны Камісарыят Працы.

Пры ўвядзеньні працгужпавіннасьці РВК павінен выходзіць з наступных асноўных палажэньняў:

а) тэрмін работ, якія выконваюцца ў парадку працгужпавіннасьці, не павінен перавышаць 30 дзён на год; кулацка-заможным гаспадаркам даецца цьвёрдае заданьне ў 60 дзён у год;

б) тэрмін, час і месца выкананьня работ павінны быць вызначаны ў абавязковай пастанове РВК пра ўвядзеньне працгужпавіннасьці;

в) пэрсанальнае вызначэньне грамадзян на працгужпавіннасьць праводзіцца сельскімі саветамі, скаргі асобных грамадзян на дзейнасьць сельсаветаў у сэнсе няправільнага прыцягненьня да працгужпавіннасьці падаюцца ў РВК, рашэньне якога зьяўляецца канчатковым;

г) працгужпавіннасьць не павінна ўводзіцца ў час вясеньніх палявых работ і ўборачнай кампаніі.

Увага. Адхіленьні ад гэтага дапушчаюцца ў выключных выпадках, у залежнасьці ад важнасьці работ.

3. У мэтах найбольшага азнаямленьня насельніцтва ў абавязковай пастанове РВК (гарсаветы) павінны паказваць як мэту працгужпавіннасьці, так і ўсе палажэньні, паводле якіх уводзіцца працгужпавіннасьць.

Копію абавязковай пастановы РВК (гарсаветы) пасылаюць у НК Працы БССР.

4. Ад працпавіннасьці вызваляюцца:

а) мужчыны ад 45 год і жанчыны ад 40 год;

б) жанчыны, якія кормяць грудзьмі, а таксама жанчыны, якія маюць дзяцей да 8 год і ня маюць іншай асобы для догляду за імі;

в) інваліды працы і вайны;

г) рабочыя і служачыя ўсіх дзяржаўных, грамадзкіх і каперацыйных прадпрыемстваў, устаноў і гаспадарак;

д) асобы, якія па стану свайго здароўя ня могуць прыцягвацца да працгужпавіннасьці, паводле заключэньня доктарска-кантрольнай камісіі (пералік хвароб устанаўляецца НК Аховы Здароўя);

е) капераваныя саматужнікі, якія заняты ў прадпрыемствах сампрамкапярацыі;

ж) адыходнікі, калі яны заняты на адыходніцкіх працах ня менш 3-х месяцаў на пряцягу сэзону;

5. Ад гужпавіннасьці аслабаняюцца:

а) коні да 4 год;

б) жарэбныя кабылы ў 2-й палове цяжарнасьці;

в) кабылы з сасунамі да 3-х месяцаў;

г) племянная жывёла.

Увага I. Племянная жывёла, якая належыць кулакам, вызваляецца ад работ па гужпавіннасьці, але замест гэтага кулацкая гаспадарка павінна кампэнсаваць кошт работы аслабанёнай племяннной жывёлы па стаўках, устаноўленых для данай работы.

Увага II. Аслабаненьне жывёлы ад гужпавіннасьці таксама робіцца ў тым выпадку, калі члены гаспадаркі па якой-небудзь прычыне (непрацаздольнасьць і іншае), ня могуць быць прыцягнуты да працгужпавіннасьці, (гэта не пашыраецца на кулацкія і заможныя гаспадаркі). Калі-ж у гаспадарцы аслабаняецца ад гужпавіннасьці жывёла (п. 5), дык гэта ня можа служыць падставай для аслабаненьня ад працпавіннасьці гаспадара гэтае жывёлы.

6. Адлегласьць для прыцягненьня насельніцтва да працгужпавіннасьці вызначаецца:

а) халасты радыус (ад месца пражываньня ўласьніка гужтранспарту да месца работы) не павінен перавышаць 75 кілёмэтраў;

б) рабочы радыус (ад месца навалкі груза да пункту перавозкі) не павінен перавышаць 20 кілёмэтраў з разьліку аднэй паездкі гружанай падводы ў дзень, што складае 40-кілёмэтравы дзённы прабег, павялічэньне ліку паездак дапушчаецца з такім разьлікам, каб дзённы прабег каня не перавышаў 40 кілёмэтраў.

7. Пры працяжных перавозках, пры якіх уласьнік гужтранспарту ня можа забясьпечыць сябе на ўвесь час паездкі фуражом, усе арганізацыі, для якіх праводзіцца гужпавіннасьць, павінны забясьпечыць на месцы цягавую сілу па нормах кармамі па загатоўчых цэнах, утвараючы для гэтага, калі патрэбна, фуражны фонд, а таксама забясьпечыўшы гэтыя пункты месцамі для коўкі, рамонту інвэнтару і абозу.

8. Аплата рабгужсілы праводзіцца ў адпаведнасьці з адзінымі расцэнкамі, устаноўленымі НК Працы для адпаведных галін работы.

9. Работы, якія выконваюцца ў парадку працгужпавіннасьці, аплачваюцца тымі арганізацыямі, для якіх яны праводзяцца, кожную дэкаду, а канчатковы разьлік робіцца безадкладна пасьля роспуску рабгужсілы.

10. Асобы, якія ўхіляюцца ад працгужпавіннасьці, прыцягваюцца да адказнасьці ў парадку прадугледжаным пастановай ЦВК і СНК БССР за 26/IX-1930 г. „Пра мерапрыемствы для ўзмацненьня работ па вывазцы дроў і лесаматарыялаў і адказнасьць за невыкананьне гэтых работ“ (З. З. БССР 1930 г. № 36, арт. 233).

11. Страты, якія панесены ў час работ па выкананьні працгужпавіннасьці ад падзяжу жывёлы або папсаваньня транспартных сродкаў і інвэнтару, якія ня могуць быць аплочаны ўладару натурай, кампэнсуюцца яму грашыма тымі прадпрыемствамі і ўстановамі, для якіх непасрэдна праводзілася работа, паводле ўстноуленых цэн.

Усе спрэчкі па пытаньні аб стратах, якія панесены пры правядзеньні працгужпавіннасьці, вырашаюцца ў судовым парадку.

12. Асобы, якія страцілі працаздольнасьць з прычыны выкананьня работ па працгужпавіннасьці, а таксама ў выпадку сьмерці работніка, непрацаздольныя члены іх сем'яў падлягаюць забясьпечаньню паводле п. 12 пастановы ЦВК і СНК БССР за 15 сакавіка 1928 г. (З. З. БССР 1928 г. № 12, арт. 97).

13. На мясцовыя органы працы, органы пракуратуры і адміністрацыйныя органы ўскладаецца нагляд за тым, каб ўвядзеньне працгужпавіннасьці адпавядала чыннаму заканадаўству.

14. Парадак прыцягненьня да працгужпавіннасьці калгасьнікаў устанаўляецца асобай інструкцыяй НК Працы і Калгасцэнтру БССР.

15. Гэтая інструкцыя ня ўжываецца пры ўвядзеньні працгужпавіннасьці пры навальных бядотах і інш. надзвычайных абставінах, калі працгужпавіннасьць праводзіцца паводле спэцыяльных законаў.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Ф. Пушчын.**

20 чэрвеня 1931 г.
№ 27.

**48. Пра ўпарадкаваньне выдачы спэцхарчаваньня.**

Праведзены НК Працы БССР выбарачны абгляд становішча спэцхарчаваньня на прадпрыемствах выявіў рад парушэньняў працоўнага заканадаўства ў частцы спэцхарчаваньня, як: нескарыстаньне самімі рабочымі спэцхарчаваньня ў час працы, выдача спэцхарчаваньня за месяц адразу (фабр. „Дзьвіна“), нявыдача спэцхарчаваньня рабочым, якія працуюць на начных зьменах выдача недабраякаснага спэцхарчаваньня (фабр. штучнага валакна ім. Куйбышава), выдача малака зачыненымі разьмеркавацелямі непасрэда на дом, выдача за некалькі дзён (машына-будаўнічы завод імя Сталіна) і інш.

Выходзячы з гэтага НК Працы БССР пастанаўляе:

1. За парушэньне чыннага заканадаўства аб працы ў частцы забясьпечаньня рабочых шкодных прафэсій спэцхарчаваньнем, прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасьці нам. дырэктароў па працы фабр. „Дзьвіна і фабр. штучнага валакна праз аштрафаваньне іх на 25 руб. кожнага.

2. Папярэдзіць дырэктара заводу ім Сталіна (Бабруйск) тав. Левіна, што ў выпадку паўторнага дапушчэньня такіх парушэньняў, ён таксам будзе прыцягнуты да адказнасьці.

3. Абавязаць кіраўнікоў усіх дзяржаўных, каперацыйных і іншых прадпрыемстваў поўнасьцю выконваць усе прадугледжаныя заканадаўствам або калдагаварамі норм і парадку выдачы спэцхарчаваньня. У паасобку забараніць:

а) кампэнсацыю спэцхарчаваньня грашыма, а таксама замену прадугледжанага заканадаўствам харчаваньня іншымі прадуктамі;

б) выдачу спэцхарчаваньня на некалькі дзён адразу.

4. Кіраўнікам усіх прадпрыемстваў устанавіць такі парадак выдачы спэцхарчаваньня, пры якім яно было-б скарыстана на працы на самым прадпрыемстве, забараніўшы ўнос спэцхарчаваньня на дом, а таксама ўстанавіць сталы санітарны нагляд за хаваньнем і выдачай спэцхарчаваньня.

5. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскласьці на гарадзкіх і раённых інспэктароў працы.

Выкананьне п. 1-га гэтае пастановы (у частцы спагнаньня штрафу) даручыць адпаведным страхавым касам.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Ф. Пушчын.**

Загадчык Сэктару Арганізацыі і Аздараўленьня умоў працы НКП БССР **З. Іофэ.**

28 чэрвеня 1931 г.
№ 28.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

### 49. Пра скасаваньне разьд. І пастановы за 15/IX-1930 г. аб прыцягненьні да прамысловага падатку ў процантных адносінах да звароту некаторых промыслаў.

На падставе арт. 3 пастановы ЦВК і СНК СССР за 23/V-1931 г. пра палягчэньне падатковага абкладаньня саматужнікаў і рамесьнікаў („Известия ЦИК СССР“ 1931 г. № 141) Народны Камісарыят Фінансаў БССР пастанаўляе:

1. Скасаваць разьдзел І сваёй пастановы за 15|IX-1930 г. аб прыцягненьні да прамысловага падатку ў процантых адносінах да звароту некаторых промыслаў (Бюл. СНК БССР 1930 г., № 20, п. 164).
2. Гэтую пастанову ўвесьці ў дзейнасьць з 1|I-1931 г.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **М. Абрамсон.**

Кіраўнік Сэктару масавых плацяжоў НКФ БССР **Айзінсон.**

15 чэрвеня 1931 г.

## Палажэньне і абежнікі Галоўнага Кіраўніцтва Камунальнай Гаспадаркі пры СНК БССР.

УЗГОДНЕНА:
НК Працы БССР 29/III-1931 г.
**—Гольдзінберг.**
ЦП СПКГ 26/III-1931 г.—**Папенкаў.**

### 50. Палажэньне пра гарадзкія прафэсійныя пажарныя каманды БССР.

I. Агульныя палажэньні.

1. Гарадзкія прафэсійныя пажарныя каманды маюць сваёю мэтаю папярэджваньне і тушэньне пажару, а таксама падачу першай дапамогі пры няшчасных выпадках і навальных бядотах (абвал, разьводзьдзе і т. д.)

2. Гарадзкія прафпажарныя каманды знаходзяцца ў веданьні аддзелаў і інспэкцый камунальнай гаспадаркі гарсаветаў і пад аперацыйным пажарна-тэхнічным кіраўніцтвам сэктару пажарнай аховы Галоўнага Кіраўніцтва Камунальнай Гаспадаркі пры СНК БССР.

3. Раён дзейнасьці гарадзкой прафпажаркаманды вызначаецца гарадзкою мяжой.

Выязды каманд на пажары за гарадзкую мяжу ўтвараюцца па загаду старшыні гарсавету альбо замяшчаючых яго асоб, ці загадчыка камгасу, а таксама па распараджэньні Начальніка ГККГ пры СНК БССР ці начальніка пажарнай аховы Рэспублікі.

Пры выезьдзе каманды на пажар за гарадзкую мяжу ў горадзе павінна быць пакінута неабходнае па мясцовых умовах тэхнічнае абсталяваньне каманды з адпаведнай колькасьцю людзей для ліквідацыі магчымых быць у горадзе пажараў.

4. У буйных гарадох прафпажаркаманда дзеліцца на паасобныя пажарныя часьці, якія разьмяшчаюцца ў вызначаных пунктах гораду, у залежнасьці ад характару абараняемай тэрыторыі, і маюць свой вызначаны раён дзейнасьці.

Выезды пажарных часьцей у іншыя раёны гораду ўтвараюцца па ўстаноўленаму раскладу выездаў, альбо па выкліку Начальніка пажарнай аховы гораду ў кожным паасобным выпадку.

5. Штаты пажарных каманд і іх тэхнічнае абсталяваньне ўстанаўліваюцца гарсаветамі па прадстаўленьні начальнікаў пажарнай аховы горадоў, выходзячы з умоў баяздольнасьці арганізацый і ў адпаведнасьці з пажарна-тэхнічнымі ўмовамі абараняемай тэрыторыі.

6. Гарадзкія прафпажаркаманды ўтрымліваюцца за кошт гарадзкіх бюджэтаў паводле складаемых штогод каштарысаў, якія, ўлічваючы эканамічныя магчымасьці, павінны прадугледзець паступовае тэхнічнае ўдасканаленьне пажарнай абароны шляхам ужываньня аўта-мота-мэханічных сродкаў барацьбы з пажарамі, ўдасканаленых спосабаў пажарнай сыгналізацыі,у адпаведнасьці з дырэктывамі VIII Усебеларускага Зьезду Саветаў (З. З. БССР 1927 г. № 49, арт. 264, раздзел VIII).

Увага. Па дагаворанасьці з гаспадарчымі органамі могуць арганізоўвацца аб'яднаныя (камунальна-ведамсьцьвенныя) пажарныя каманды альбо часьці, якія ўтрымоўваюцца за кошт гарсаветаў і адпаведных гаспадарчых арганізацый.

7. Будынкі пажарных каманд і часьцей павінны быць прыстасаваны да ўмоў пажарнай службы і хуткага выязду каманды па трывозе.

Пры капітальным пераабсталяваньні існуючых будынкаў і пабудове новых будынкаў для пажарных каманд і часьцей, праекты зацьвярджаюцца ГККГ пры СНК БССР.

8. Работы прафпажаркаманд па ліквідацыі пажараў і падачы першай дапамогі пры стыхійных бядотах (арт. 1) не падлягаюць аплаце з боку тых гаспадарак і ўстаноў, якім аказана дапамога. Іншыя-ж работы пажарных, як: дзяжурства ў мясцох відовішч, караулы пры выпальваньні дымаходаў, адкачка вады ў выпадках не стыхійнага характару і г. д., аплачваюцца тымі арганізацыямі і асобамі, для якіх выконваецца работа, прычым на падобныя работы, за выключэньнем выпальваньня дымаходаў, ня можа скарыстоўвацца абсталяваньне і жывая сіла, якія знаходзяцца ў баявым складзе каманды.

9. Скарыстаньне пажарных працаўнікоў, інвэнтару і абсталяваньня пажарных каманд на работы, якія не зьвязаны з ускладзенымі на іх абавязкамі, забараняецца (пастанова Савету Працы і Абароны за 9/V-1921 г.—З. З. за 1921 г. № 39, арт. 208), за выключэньнем работ у парадку ўшчыльненьня працоўнага дня (арт. 36).

10. Аб сваёй дзейнасьці гарадзкія прафпажаркаманды прадстаўляюць справаздачы гарсавету і Галоўнаму Кіраўніцтву Камунальнай Гаспадаркі пры СНК БССР.

## II. Кіраўніцтва і арганізацыя пажарных каманд.

11. На чале гарадзкой прафпажаркаманды стаіць начальнік пажарнай аховы адпаведнага гораду, падпарадкаваны непасрэдна загадчыку камунальнай гаспадаркі гарсавету.

У пажарна-тэхнічных і дысцыплінарных адносінах начальнік пажарнай аховы гараду падпарадкаваны ГККГ.

12. У буйных прамысловых і культурных цэнтрах пры Начальніку пажарнай аховы гораду, па пастанове гарсавету, можа быць утворана гарадзкое кіраўніцтва пажарнай аховы, якое складаецца з неабходнага штату працаўнікоў, падпарадкаваных начальніку пажарнай аховы гораду.

13. Начальнік пажарнай аховы гораду і яго памочнік назначаецца прэзыдыумам гарадзкога савету і зацьвярджаецца ГККГ.

14. На чале кожнай пажарнай часьці стаіць начальнік часьці, які падпарадкаван непасрэдна начальніку пажарнай аховы гораду.

15. Начальнікі пажарных часьцей і іх памочнікі назначаюцца начальнікамі пажарнай аховы гарадоў.

16. На пажарах начальнік пажарнай аховы гораду альбо асоба яго замяшчаючая, зьяўляецца адзіным адказным кіраўніком пажарातушэньня. Яго распараджэньні ня могуць нікім адмяняцца і павінны выконвацца ўсімі пажарнымі арганізацыямі, якія працуюць на пажары.

17. Пробныя трывогі гарадзкім прафпажаркамандам (пажарным часьцям) без узгадненьня з начальнікам пажарнай аховы гораду, могуць рабіць толькі стаячыя вышэй службовыя асобы дзяржаўнага пажарнага нагляду і асобы, якія маюць на гэта дазвол адпаведнага органу савецкай улады.

18. Адказнасьць за баяздольнасьць, правільнасьць дзеяньня на пажарах, дысцыплінаванасьць і палітычна-маральнае становішча асабовага складу прафпажаркаманд, а таксама за становішча тэхнічнага абсталяваньня і інвэнтару, нясуць службовыя асобы пажарных каманд у парадку падпарадкаванасьці.

19. Супроцьпажарна-прафіляктычная праца па гарадох праводзіцца камандным складам прафпажаркаманд пад кіраўніцтвам начальніка гарадзкой пажарнай аховы.

У буйных гарадох па пастанове прэзыдыуму гарсавету ўводзіцца пасада пажарнага інспэктара, які падпарадкаваны непасрэдна начальніку пажарнай аховы гораду.

20. Распараджэньні, якія датычацца гарадзкіх прафпажаркаманд, аддаюцца начальнікам гарадзкай пажарнай аховы праз загады па адпаведнай пажарнай камандзе.

## III. Камплектаваньне асабовага складу.

21. Замяшчэньне пасад у гарадзкіх прафпажаркамандах утвараецца згодна патрабаваньняў да іх тэхнічнай кваліфікацыі, якія выкладзены ў кваліфікацыйным даведчыку ЦК СПКГ, а таксама па існуючых правілах аб парадку замяшчэньня пасад.

22. Асабовы склад пажарных каманд камплектуецца з асоб дэмабілізаваных з шэрагаў Чырвонай Арміі (Кодэкс аб ільготах для вайскоўцаў і вайскова-абавязаных РСЧА і іх сем'яў-З. З. СССР 1930 г. № 23, арт. 253, § 57), а пры іх адсутнасьці—з працоўных, якія прайшлі вызначаны тэрмін вайсковай службы.

23. Прыём, звальненьне і перамяшчэньне працаўнікоў пажарных каманд утвараецца начальнікамі пажарнай аховы гарадоў паводле Кодэксу аб Працы з захаваньнем арт. 26 гэтага палажэньня.

24. Асобы, якія паступаюць у пажарную каманду, падлягаюць мэдычнаму агляду, прычым на службу прымаюцца асобы, якія ня маюць фізычных недахопаў і хвароб, небясьпечных для акаляючых.

25. На ўсіх пажарных працаўнікоў вядуцца працоўныя сьпісы паводле існуючых палажэньняў.

## IV. Праходжаньне службы.

26. Служба ў прафпажаркамандах рэгулюецца Кодэксам аб Працы БССР пры захаваньні наступных асаблівасьцяй (пастанова ЦВК і СНК СССР за 3/І-1930 г.—З. З. СССР 1930 г. № 3, арт. 31):

а) пажарныя працаўнікі ня могуць адмовіцца ад работы, зьвязанай з небясьпекаю для здароўя і жыцьця пры тушэньні пажараў ці стыхійных бядотах і няшчасных выпадках;

б) асобы, якія паступаюць у прафпажаркаманды, даюць падпіску аб тым, што яны абавязаны праслужыць ня менш аднаго году; пасьля сканчэньня тэрміну падпіска кожны раз аднаўляецца;

в) пажарныя працаўнікі ня маюць права спыніць выкананьне сваіх службовых абавязкаў да аслабаненьня іх ад пасады і здачы апошняй;

г) пажарныя працаўнікі незалежна ад іх згоды, могуць быць распараджэньнем нач. паж. аховы гораду, пераведзены ў інтарэсах службы з аднэй пажарнай арганізацыі ў другую ў межах данага гораду.

27. Пажарныя працаўнікі страявога складу падлягаюць абавязковаму дзяржаўнаму страхаваньню за кошт адпаведнага органу (паст. ЦВК і СНК БССР за 7/ІІІ-1930 г.—З. З. БССР за 1930 г. № 15, арт. 103).

28. За добрыя вынікі па сацспаборніцтву, за выдатныя ўчынкі па ахове дзяржаўнай і грамадзкай маемасьці, за карысныя прапановы па рацыяналізацыі і палепшаньні пажарнай справы, за прыкладную службу—пажарныя працаўнікі падлягаюць розным відам заахвочваньня

і прэміраваньню за кошт адпаведных органаў, а ў асабліва выдатных выпадках могуць быць прадстаўлены да агульнадзяржаўных узнагарод.

29. У час службы працаўнікі прафпажаркаманд павінны дакладна выконваць вызначаны для каманды ўнутраны парадак. За парушэньні службовай дысцыпліны на пажарных працаўнікоў могуць накладацца наступныя спагнаньні: 1) заўвага, 2) вымова, 3) перавод на ніжэйшую пасаду на тэрмін да 1 году, 4) арышт да 3-х сутак пры міліцыі, 5) звальненьне (паст. ЦВК і СНК СССР за 6/І—1930 г. З. З. СССР 1930 г. № 3, арт. 35).

Парадак ужываньня заахвочваньняў і спагнаньня вызначаецца статутам унутранай службы.

30. Служба ў прафпажаркамандах працягваецца бесьперапынна на працягу году.

31. Пасьля работы на пажарах, у залежнасьці ад зморанасьці, дзяжурнай зьмене пажарных пасьля прывядзеньня імі абозу ў баявую гатоўнасьць, прадастаўляецца адпачынак.

32. Васьмігадзінны працоўны дзень у прафпажаркамандах ажыцьцяўляецца праз трохзьменнае дзяжурства (пастанова СНК БССР за 25/VІІ-1928 г.—прат. СНК № 53, п. 774). Працяжнасьць дзяжурства кожнай зьмены павінна быць ня больш 12 гадз. Перапынак пры 12-гадзінным дзяжурстве павінен быць ня менш 24 гадзін.

33. Начальнікі пажарнай аховы і начальнікі пажарных часьцей выконваюць службу незалежна ад зьмен, а пры адлучцы перадаюць свае абавязкі памочніку альбо намесьніку.

Памянёныя асобы, з прычыны неабходнасьці сталага прабываньня ўнутры разьмяшчэньня гаспадаркі каманды ці часьці, карыстаюцца дармовымі кватэрамі і асьвятленьнем на тэрыторыі каманды ці часьці.

34. У маламоцных камандах з невялікім штатам людзей, у мэтах скарыстаньня рабочай сілы не дзяжурных зьмен для работы на пажарах, па згодзе з прафсаюзнымі органамі можа быць устаноўлена абавязковасьць выязду па трывозе пажарных працаўнікоў, якія знаходзяцца ў адпачынку, пры адпаведнай іх кампэнсацыі (прадастаўленьне дармовых кватэр і інш.)

35. Унутрыгаспадарчыя работы і заняткі з дзяжурнай зьменай пажарных павінны ўтварацца па раней вызначанаму раскладу, які павінен быць вывешаны на відным месцы.

36. У мэтах ушчыльненьня працоўнага дню, ўцягненьня ў вытворчую працу пажарных працаўнікоў, дазваляецца арганізоўваць пры прафпажаркамандах дапаможныя работы, пераважна маючыя дачыненьне да пажарнай справы, як, напрыклад, майстэрні па рамонту пажарнага інвэнтару, па зарадцы і іспыту хэмічных агнятушыцеляў і інш. Падобныя работы праводзяцца сіламі дзяжурных зьмен і арганізуюцца такім чынам, каб яны не перашкаджалі асноўнай пажарнай службе і баявой падрыхтоўцы пажарных працаўнікоў.

37. Для падліку работ і падагульваньня дзейнасьці прафпажаркаманд, павінна быць заведзена дакладная рэгістрацыя ўсіх выяздаў

(на пажары, трывогі, вучэньні), а таксама падлік усіх гаспадарчых работ і нарадаў, якія выконваюцца дзяжурнымі зьменамі пажарных.

38. Культасьветная і масавая работа ў прафпажаркамандах арганізуецца і праводзіцца ў агульным парадку пры максімальным удзеле і садзейнічаньні каманднага складу з улікам асаблівасьцяй пажарнай службы і павінна садзейнічаць узмацненьню палітычна-маральнага становішча і баяздольнасьці пажарных каманд праз уцягненьне іх асабовага складу ў грамадзкае і палітычнае жыцьцё.

39. Пажарным працаўнікам пры выкананьні службовых абавязкаў прысвайваецца форма вопраткі вызначанага ГККГ узору і выдаецца спэцвопратка па нормах НК Працы.

40. Зарплата пажарным працаўнікам выплачваецца ў агульным парадку па стаўках, якія ўстаноўлены НК Працы ў парадку дзяржнармаваньня.

Для асоб, якія праслужылі бесьперапынна на страявых пасадах у прафпажаркамандах вызначаныя тэрміны, ўстаноўлены пэрыядычныя надбаўкі за выслугу гадоў: для праслужыўшых 3 гады—10 проц., 6 гадоў—20 проц. 9 і больш гадоў—30 проц. да асноўнага акладу (пастанова ЦВК і СНК БССР за 9 жніўня 1930 г.—З. З. БССР 1930 г. № 31, паст. 196).

41. Унутраны парадак у гарадзкіх прафпажаркамандах вызначаецца „Статутам унутранай службы ў прафэсійных пажарных камандах БССР“.

Начальнік Галоўнага Кіраўніцтва Камунальнай
Гаспадаркі пры СНК БССР **Аксючыц.**

Начальнік Пажарнай
Аховы ГККГ БССР **Берасьневіч.**

11 красавіка 1931 г.
№ 10.

## 51. Абежнік аб правілах пажарнай аховы памяшканьняў для сходаў і відовішчаў.

***Усім райвыканкомам, Менскаму, Віцебскаму і Гомельскаму гарсаветам.***

Шэраг пажараў, асабліва здарыўшаяся катастрофа ў вёсцы Кіціна Парыцкага раёну, дзе пакалечаны дзесяткі людзей, паказваюць, што ў сельскіх мясцовасьцях зварочваецца зусім слабая ўвага на супроцьпажарную ахову памяшканьняў для сходаў і відовішч, што таксама спрыяе клясаваму ворагу, які не застанаўліваецца нават перад такім агідным сродкам клясавай помсты, як пажары з чалавечымі ахвярамі.

Каб папярэдзіць магчымасьць пажараў і зьвязаных з імі катастроф у памяшканьнях для масавай культасьветнай работы, Галоўкамгасам выдадзены узгодненыя з НК Асьветы „Правілы пра захады

супроцьпажарнай аховы памяшканьняў для масавых сходаў у сельскіх мясцовасьцях і мястэчках БССР“, якія адначасова публікуюцца.

У сваіх абавязковых пастановах РВК і гарсаветы павінны прадугледжваць выкананьне гэтых правілаў і адказнасьць за іх парушэньне.

Начальнік Галоўнага Кіраўніцтва Камунальнай Гаспадаркі пры СНК БССР **Аксючыц.**

Сакратар ГККГ пры СНК БССР **Веразінскі.**

15 чэрвеня 1931 г.
№ 22.

**Дадатак.**

ЗАЦЬВЯРДЖАЮ.

Начальнік Галоўнага Кіраўніцтва Камунальнай Гаспадаркі пры СНК БССР
**Аксючыц.**

15 чэрвеня 1931 г.

## Правілы пра захады супроцьпажарнай аховы памяшканьняў для масавых сходаў у сельскіх мясцовасьцях і мястэчках.

Пры правядзеньні сходаў і розных культасьветных мерапрыемстваў, якія зьвязаны з масавым скапленьнем людзей ўнутры памяшканьняў, павінны захоўвацца наступныя супроцьпажарныя мерапрыемствы:

1. Скапленьне людзей не павінна перавышаць нармальную ўмяшчальнасьць памяшканьня пры наяўнасьці вольных праходаў.

2. Памяшканьне павінна мець бесьперашкодныя выхады на двор, шырынёю ня менш 1 мэтру, з разрахунку 100 чалавек на 1 мэтр шырыні выхаду. Выхадныя дзьверы павінны лёгка адчыняцца ў напрамку выхаду і ў час сходаў ні ў якім разе не зачыняцца на запоры.

3. Забараняецца скапленьне людзей у праходах і каля выхадаў, а таксама заграмаджаць праходы і выхады якімі-небудзь рэчамі.

4. Вокны памяшканьня не павінны быць забіты і павінны мець даступныя і лёгкаадчыняючыяся запоры на выпадак неабходнасьці скарыстаньня іх для эвакуацыі.

5. Топка печаў павінна рабіцца загадзя, да збору людзей. Устаноўка часовых печаў у памяшканьнях для сходаў забараняецца.

6. Асьвятленьне памяшканьняў для сходаў, калі ў данай мясцовасьці ёсьць электрычнасьць, павінна быць электрычнае; калі-ж электрычнасьці няма, дапушчаецца ўжываньне сьвечак у мэталёвых ліхтарах з шыбамі, альбо газавых лямпаў.

7. Пры асьвятленьні газавымі лямпамі павінны быць ужыты наступныя захады:

а) лямпы павінны ўжывацца выключна з мэталёвымі рэзэрвуарамі;

б) у нізкіх памяшканьнях лямпы павінны прымацоўвацца на жалезных крукох да сьцен. Пры вышыні памяшканьня больш 3 м.,

лямпы могуць падвешвацца да столі на крукох, прапушчаных праз бэльку з шрубам зьверху;

в) адлегласьць ад лямпы да драўлянай сьцяны павінна быць ня менш 20 см.; калі сьцяна атынкована альбо абабіта жалезным лістом ня менш 15 см.,

г) адлегласьць ад верху шкла лямпы да столі павінна быць ня менш 70 см.,

д) над шклом лямпы,на адлегласьці ня менш 20 см. ад яго верху, павінен быць падвешан мэталёвы каўпачок дыямэтрам ня менш 15 см.

8. Забраняецца курыць у памшканьнях у час сходў, пастановах і інш., аб чым павінны быць вывешаны адпаведныя аб'явы.

9. Пры дэманстраваньні карцін кіно перасоўкамі,акрамя вышэй пералічаных патрабаваньняў павінны быць ужыты наступныя захады:

а) кіно-апарат павінен быць устаноўлен з процілеглага боку ад выхаду з памяшканьняў і павінен быць агароджаны ад публікі пярыламі альбо скамейкамі, пастаўленымі на адлегласьці ня менш 3—4 м. ад апарата;

б) кіно-апарат павінен мець каробкі „Мале“ а праектар апарату павінен быць абавязкова з элекктрычнаю лямпаю накальваньня;

в) рэастаты альбо прылады для атрыманьня электрычнага току, (магнэта,дынамо) павінны быць устаноўлены так,каб да іх не датыкалася фільма;

г)для хаваньня фільмаў пры кіно-апараце павінна быць жалезная скрынка. Акрамя таго,фільмы павінны быць у мэталёвых каробках;

д) перамотка фільмаў у памяшканьні для публікі забараняецца;

е) пры кіно-апараце павінна быць пастаўлена кадушка з вадою, а таксама хэмічны агнетушыцель і кусок плотнай тканіны разьмерам 2 x 2 м.;

ж) кіно-мэханік павінен мець электрычны ліхтар для асьвятленьня апарату ў неабходных выпадках;

з) кіно-мэханіку забараняецца пакідаць свае месца каля апарата, а таксама перадаваць кіраваньне апаратам іншым асобам;

і) асобы ў нецьвярозым становішчы на кіно-сэансы на дапушчаюцца;

к) на кожныя 75 чал. гледачоў павінен быць 1 выхад.

10. Пра кожны выпадак масавага мерапрыемства павінна быць паведамлена мясцовая пажарная арганізацыя, якая павінна выслаць пажарны каравул. Апроч таго, для захаваньня парадку ў памяшканьнях для сходаў сельсаветы павінны прыцягнуць вясковых выканаўцаў.

11. Адказнасьць за няпрыняцьце захадаў супроцьпажарнай небясьпекі пры правядзеньні масавых мерапрыемстваў ускладаецца на загадчыкаў памяшканьняў і кіно-мэханікаў.

Начальнік Пажарнай Аховы ГККГ
пры СНК БССР **Берасьневіч.**

## 52. Аб мерапрыемствах па ўзмацненьні пажарнай аховы ў калгасах, саўгасах і МТС.

*Усім райкалгассаюзам і райінспэктарам камунальнай гаспадаркі і начальнікам пажарнай аховы гарадоў Менску, Віцебску і Гомеля.*

Маючыяся зьвесткі аб становішчы пажарнай аховы ў калгасах сьведчаць аб тым, што гэтая галіна працы на мясцох, пакінута без увагі, што большасьць калгасаў не забясьпечана ў супроцьпажарных адносінах, альбо ня мае ніякай пажарнай аховы, не забясьпечана пажарным інвэнтаром, шмат дзе не арганізаваны пажарныя дружыны, а што датычыць папярэджваючых супроцьпажарных мерапрыемстваў, то гэтай справай зусім ніхто не займаецца.

Такое становішча ў далейшым ні ў якім разе ня можа працягвацца, асабліва, калі прыняць пад увагу, што калгаснае будаўніцтва працякае ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы і супраціўленьня з боку кулацкіх і антысавецкіх элемэнтаў вёскі, якія не застанаўліваюцца перад тэрарыстычнымі актамі, у прыватнасьці падпаламі. Супроць гэтай пагрозы калгасы павінны быць належным чынам узброены.

Адсутнасьць у раёнах штатных пажарных інструктароў накладвае на райкалгассаюзы яшчэ большыя абавязкі па наладжваньні пажарнай справы ў калгасах. Побач з работай па правядзеньні чарговых гаспадарча-палітычных кампаній на райкалгассаюзы лажыцца задача па арганізацыі, праверцы і ўзмацненьні пажарнай аховы ў калгасах.

Для кіраўніцтва на мясцох выдадзены ГККГ і НКЗ БССР „Часовыя правілы па пажарнай ахове калгасаў, саўгасаў і МТС". У адпаведнасьці з гэтымі правіламі райкалгассаюзы і райінспэктары камунальнай гаспадаркі павінны павесьці работу па пажарнай ахове-аграмаджанага сэктару с.-г. з такім разьлікам, каб да ўборачнай кампаніі бягучага году падняць пажарную ахову на належную вышыню.

У паасобку павінны быць безадкладна праведзены наступныя мерапрыемствы:

1. Вылучыць у кожным калгасе загадчыкаў пажарнай аховы, паводле § 3 правілаў, праз якіх і праводзіць усю работу па пажарнай ахове.

2. Арганізаваць у кожным калгасе супроцьпажарную тройку, у якую павінен уваходзіць член сельсавета, абавязаўшы іх у бліжэйшы час прарабіць наступнае:

а) праверыць наяўнасьць і становішча пажарнага інвэнтару, прыняўшы захады да прывядзеньня яго ў баявую гатоўнасьць і рамонту яго ў патрэбных выпадках;

б) праверыць вадакрыніцы, якія могуць быць скарыстаны для пажаратушэньня (вадаёмы, студні і г. д.) і зрабіць да іх зручныя пад'езды. Пры адсутнасьці вадакрыніц намеціць канкрэтныя мерапрыемствы для забясьпечаньня вадой на выпадак пажару;

в) арганізаваць і правесьці ачыстку тэрыторый каля будынкаў ад гаручага сьмецьця і адкідаў;

г) праверыць становішча ўсіх печаў, ужыўшы захады да рамонту папсаваных печаў і комінаў і ачысткі апошніх ад сажы;

д) вызначыць месца для хаваньня гаручых матарыялаў на дастатковай адлегласьці ад будынкаў, а таксама месцы, дзе забараняецца курэньне;

е) зьвярнуць асаблівую ўвагу на ахову новага будаўніцтва ў калгасах, забясьпечыўшы яго першачарговымі супроцьпажарнымі мерапрыемствамі і абсталяваньнем (вольныя пад'езды, асьцярожнае абыходжаньне з агнём, запас вады і г. д.);

ж) дзе няма пажарных дружын, арганізаваць гэтакія, альбо далучыцца да бліжэйшай пажарнай арганізацыі, а дзе пажарныя дружыны маюцца, прасачыць каб яны праводзілі адпаведную працу, у паасобку systэматычныя заняткі па пажарнай справе.

з) вызначыць спэцыяльнае памяшканьне, па магчымасьці у цэнтры забудаванай тэрыторыі, для захаваньня пажарнага інвэнтару, устанавіўшы дзяжурствы людзей і коняй у колькасьці, неабходнай па мясцовых умовах, на выпадак пажару—пры пажарным дэпо, а ў выпадку адсутнасьці пры ім адпаведных памяшканьняў—паблізу ад пажарнага дэпо.

3. Райкалгассаюзам распрацаваць і прадставіць у Беладдзяленьне ВЗОК (Менск, пл. Волі, 13) зьвесткі аб патрэбным пажарным інвэнтару і абсталяваньні для калгасаў на 1931 г., выходзячы з сапраўдных патрэб і рэальных магчымасьцяй іх набыцьця, арганізаваўшы праз капсаюз плянавае забясьпечаньне калгасаў пажарным інвэнтаром.

4. Для належнай пастаноўкі і ўзмацненьня пажарнай аховы ў калгасах да гэтай справы павінна быць прыцягнута ўвага ўсёй савецкай грамадзкасьці, для чаго практыкаваць прапрацоўку пытаньняў пажарнай аховы на вытворчых нарадах, агульных сходах, з удзелам мясцовых савецкіх і грамадзкіх арганізацый.

5. Райкалгассаюзам пры камандыраваньні сваіх працаўнікоў у калгасы даручыць апошнім утвараць праверку выкананьня распараджэньняў і становішча пажарнай аховы.

6. Райінспэктарам камунальнай гаспадаркі ўсе пералічаныя вышэй мерапрыемствы правесьці таксама ў саўгасах і МТС, правяраючы выкананьне супроцьпажарных мерапрыемстваў (у саугасах, калгасах і МТС) і аказваючы поўнае садзейнічаньне ў правядзеньні гэтых мерапрыемстваў.

Накіроўваемыя пры гэтым часовыя правілы па пажарнай ахове павінны быць вывешаны у кожнай гаспадарцы для агульнага кіраўніцтва.

Начальнік Галоўнага Кіраўніцтва Камунальнай Гаспадаркі пры СНК БССР **Аксючыц.**

Нам. Старшыні Белкалгасцэнтру **Стрэле.**

28 чэрвеня 1931 г.

Дадатак 1.

## Часовыя правілы супроцьпажарнай аховы саўгасаў, калгасаў і машына-трактарных станцый.

### I. Агульнае палажэньне.

1. Гэтыя правілы пашыраюцца на ўсе існуючыя і ўноў арганізуемыя саўгасы, калгасы і машына-трактарныя станцыі.

### II. Пажарны нагляд.

2. Непасрэдная адказнасьць за непрыняцьце супроцьпажарных захадаў у саўгасах і машына-трактарных станцыях ускладаецца на іх дырэктароў, а ў калгасах—на старшынь праўленьняў.

3. Для загадваньня пажарнай аховай як у цэнтральнай базе, гэтак і на вучастках кожнага саўгаса, калгаса і машына-трактарнай станцыі павінна быць назначана адказная асоба—загадчык пажарнай аховы. Асобы, загадваючыя пажарнай аховай на вучастках, зьяўляюцца памочнікамі загадчыка пажарнай аховы гаспадаркі.

4. На загадчыка пажарнай аховы саўгаса, калгаса або машына-трактарнай станцыі ўскладаецца:

а) арганізацыя пажарнай аховы на тэрыторыі, занятай саўгасам, калгасам або машына-трактарнай станцыяй,

б) правядзеньне супроцьпажарных мерапрыемстваў паводле існуючых правіл і інструкцый,

в) кіраваньне працай памочнікаў загадчыка пажарнай аховы на вучастках,

г) кіраўніцтва тушэньнем пажараў, калі няма пажарнай арганізацыі, прадугледжанай у п. 6.

5. Загадчыкі пажарнай аховы саўгасаў, калгасаў і машына-трактарных станцый падпарадкаваны ў адміністрацыйна-гаспадарчых адносінах дырэктарам саўгасаў і машына-трактарных станцый і старшыням калгасаў, а ў адміністрацыйна-тэхнічных адносінах—органам дзяржаўнага пажарнага нагляду.

На сельскія саветы ўскладаецца агульнае кіраваньне пажарнай аховай у калгасах, якія знаходзяцца на іх тэрыторыі, а таксама адказнасьць за становішча гэтай аховы.

6. У тых выпадках, калі ў саўгасе, калгасе або машына-трактарнай станцыі ёсьць ці арганізуецца пажарная дружына альбо каманда, загадваньне пажарнай аховай ускладаецца на начальніка пажарнай арганізацыі, прычым парадак падпарадкаванасьці гэтых асоб такі-ж, які паказаны ў п. 5.

7. Калі органамі пажарнага нагляду будзе знойдзена, што загадчык пажарнай аховы альбо начальнік дружыны не адпавядаюць свайму прызначэньню, яны маюць права патрабаваць замены іх іншымі асобамі. Сельсаветам даецца гэтае права ў адносіне загадчыкаў пажарнай аховы і начальнікаў дружын калгасаў, якія знаходзяцца на іх тэрыторыі.

8. Аб асобах, на якіх ускладзена загадваньне пажарнай аховай, павінны быць не пазьней 10-дзённага тэрміну прадстаўлены зьвесткі па далучанай да гэтага форме раённаму інспэктару камунальнай гаспадаркі, а ў мясцовасьцях, далучаных да гарадзкой мяжы,—начальніку пажарнай аховы адпаведнага гораду.

## III. Папярэджваючыя супроцьпажарныя мерапрыемствы.

9. Расплянаваньне і забудоўка тэрыторый, якія заняты саўгасамі, калгасамі і машына-трактарнымі станцыямі, праводзіцца на аснове існуючых законаў і правіл пляніроўкі і забудоўкі.

10. Будынкі прамысловага, грамадзкага і гандлёвага прызначэньня, у тым ліку і саматужныя майстэрні з мэханічнымі рухавікамі, будуюцца паводле адпаведных правіл і норм будаўнічага праектаваньня.

11. Будынкі сельгаспадарчага вытворчага альбо складзкога прызначэньня з дапаможнымі службамі, а таксама будынкі для ўтрыманьня жывёлы павінны разьмяшчацца ад жыльлёвых будынкаў на адлегласьці ня менш 100 мэтраў; гэты разрыў можа быць скарыстаны пад грамадзкія сады, спартыўныя пляцоўкі і г. д.

12. Скарыстаньне памяшканьняў у вытворчых і складзкіх будынках для культасьветных патрэб забараняецца.

13. Хаваньне сена на вышках будынкаў для ўтрыманьня жывёлы дапушчаецца выключна над кармавым аддзяленьнем, якое павінна быць ізалявана ад суседніх памяшканьняў, і толькі ў межах бягучай патрэбы і ня звыш двухсутачнай нормы.

Хаваньне аб‘ёмістага фуража на вышках вытворчых, складзкіх і жылых будынкаў забараняецца. Запасы гэтага фуража павінны разьмяшчацца ня бліжэй 200 мэтраў ад будынкаў і пабудоў.

14. Курэньне і неасьцярожнае абыходжаньне з агнём у мясцох, небясьпечных у пажарных адносінах (сенавалах, стайнях і г. д.) сурова забараняецца, аб чым у гэтых мясцох вывешваюцца адпаведныя аб‘явы.

15. Устаноўка печаў у памяшканьнях для аўтамашын, трактароў, а таксама для ўтрыманьня жывёлы дапушчаецца пры наступных умовах:

а) печы павінны быць з цэглы на самастойным фундаманце,

б) разьдзелка з агнятрывалых матарыялаў паміж печкай і гаручымі часьцямі будынку павінна быць таўшчынёю ня менш 25 см., а ў выпадку адсутнасьці разьдзелкі адлегласьць печы да гаручых частак павінна быць ня менш 45 см.,

в) таўшчыня сьценак дымавых каналаў і комінаў павінна быць ня менш паловы цэгліны,

г) рабіць лежакі не дапушчаецца,

д) коміны павінны быць зложаны з цэглы і выводзяцца вышэй канька страхі ня менш як на 30 см.,

е) печы павінны быць агароджаны для папярэджаньня датыканьня да іх жывёлы.

16. Прылады для асьвятленьня (электрычнага, газаю) у будынках для жывёлы павінны быць на такой вышыні, каб яны не маглі быць папсаваны жывёлаю.

Пры асьвятленьні газаю лямпы павінны ўстаўляцца ў ліхтары, а апошнія павінны быць надзейна прымацаваны да сьцен, столяў або іншых нярухомых частак. Драўляныя часьці, якія знаходзяцца паблізу ад ліхтароў, павінны быць абаронены ад нагрэву праз абіўку жалезам па асбэсту альбо па войлаку, змочанаму ў гліне. Адлегласьць гаручых частак над ліхтарамі павінна быць ня менш 70 см. ад агня лямпы.

Запраўка лямп павінна рабіцца па-за вытворчымі і складачнымі памяшканьнямі асобамі, якія спэцыяльна да гэтага прыстаўлены, і пры дняўным сьвятле. Абслугоўваньне лямп падлеткамі, а таксама разноска запаленых лямп па памяшканьнях забараняецца.

17. Гаражы для трактарных калён павінны адпавядаць спэцыяльным правілам гаражнага будаўніцтва.

Пры наяўнасьці ў гаспадарцы аднаго альбо некалькіх трактароў або аўтамабіляў памяшканьні для іх павінны адпавядаць наступным умовам:

а) падлога ў гаражы павінна быць земляная, глінабітная, альбо з іншых агнетрывалых матарыялаў; б) вароты, дзьверы і вокны гаражоў павінны адчыняцца ў бок выхаду; в) работа з адкрытым агнём і іншае ўжываньне адкрытага агню ў гаражы забараняецца; г) хаваньне гаручага, за выключэньнем знаходзячагася ў баку пры машыне, у гаражы забараняецца; д) запасы гаручага павінны хавацца ў асобна-стаячых будынках ці паграбах у мэталёвых судзінах; е) напаўненьне бакаў машын гаручым павінна ўтварацца абавязкова пры дзённым сьвятле, ж) у гаражы павінен быць запас пяску ў скрынках ня менш ½ куб. мэтра з жалезнай лапатай пры кожнай скрынцы і па аднаму густапеннаму агнегасіцелю на кожную машыну; з) прамасьленыя анучкі і інш. абцірачны матарыял павінен складвацца ў жалезныя вёдры альбо скрынкі з мэталёвымі крышкамі; і) падлога ў гаражы павінна трымацца ў чыстаце, а у выпадку, калі будзе разьліта гаручая вадкасьць апошняя павінна безадкладна зьнішчацца, к) уваход у памяшканьне гаража для асоб, якія ня маюць дачыненьня да абслугоўваньня машын, павінен быць забаронен.

18. Апроч пералічаных павінны захоўвацца супроцьпажарныя мерапрыемствы паводле абавязковых пастаноў выканаўчых камітэтаў і саветаў.

## IV. Сыгналізацыя.

19. Для паведамленьня аб пажары і выкліку пажарнай дапамогі ў любы час дня і ночы, павінна быць прыстасавана гукавая або іншая сыгналізацыя.

Установка званоў, сірэн і іншых прыладаў гукавай сыгналізацыі павінна быць узгоднена з мясцовымі адміністрацыйнымі органамі.

## V. Вадазабясьпечаньне.

20. Для мэтаў пажаратушэньня павінны быць скарыстаны прыродныя вадазборы, прычым для бесперашкоднага атрыманьня вады павінны быць папярэдне ўпарадкаваны пад'езды і пляцоўкі для ўстаноўкі помп.

Пры адсутнасьці прыродных вадазбораў павінны быць прыстасаваны штучныя вадазборы (студні, пруды, запруды і г. д.). Ёмістасьць штучных вадазбораў павінна быць разьлічана на бесьперапынную работу маючыхся пажарных помпаў у выпадку пажара.

## VI. Пажарны інвэнтар.

21. Для тушэньня пажараў у кожным калгасе, саўгасе і машына-трактарнай станцы павінен быць адпаведны пажарны інвэнтар паводле паказаньняў органаў пажарнага нагляду.

Пры вызначэньні віда пажарнага інвэнтару, а таксама абозу павінна быць улічана магчымасьць скарыстаньня наяўных мэханічных агрэгатаў як: трактараў, лёкамабіляў і аўтамашын.

22. Пажарны абоз і інвэнтар павінны быць разьмешчаны ў асобна-стаячым, спэцыяльна для гэтага прызначаным, памяшканьні—пажарным дэпо.

23. Скарыстаньне пажарага інвэнтару і абсталяваньня, а таксама пажарных арганізацый на работах, якія ня маюць дачыненьня да пажарнай справы, караецца па закону.

## VII. Пажарныя арганізацыі.

24. Для арганізаванай барацьбы з пажарамі, для абслугоўваньня пажарнага абозу і інвэнтару арганізуюцца пажарныя дружыны на аснове адпаведнага нармальнага статуту.

25. Склад пажарных дружын, а таксама абозу і інвэнтару, павінны вызначацца ў залежнасьці ад:

а) каштоўнасьці маемасьці саўгасу, калгасу, машына-трактарнай станцыі,

б) расплянаваньня і забудоўкі тэрыторыі,

в) становішча пажарнага вадазабясьпечаньня,

г) становішча дарог на абараняемай тэрыторыі,

д) моцнасьці суседніх пажарных арганізацый.

26. У залежнасьці ад мясцовых умоў і каштоўнасьці абараняемай маемасьці органы пажарнага нагляду маюць права патрабаваць апроч арганізацыі пажарных дружын арганізацыі таксама пажарных пастоў, каравулаў або каманд.

27. Для падліку пажарнага інвэнтару і абсталяваньня, для адзнак аб пажарных аглядах, для запісу пажараў і вучэньняў павінна быць заведзена спэцыяльная кніга, якая захоўваецца ў загадчыка пажарнай аховы.

Начальнік Галоўнага Кіраўніцтва Камунальнай Гаспадаркі пры СНК БССР **Аксючыц.**

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Масюкоў.**

28 чэрвеня 1931 г.

Дадатак 2.

## Зьвесткі аб загадчыку пажарнай аховы

1. Прозьвішча, імя і імя па бацьку . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
2. Радзіўся ў . . . . . . годзе . . . . . . . мес. . . . . . . дня . . .
3. Нацыянальнасьць . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
4. Сацыяльнае становішча . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
5. Адукацыя: а) агульная . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
б) спэцыяльная . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
6. Прафэсія . . . . . . . . . . . . . . . . . з стажам . . . . . год
7. Партыйнасьць . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
9. Член прафсаюза . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
9. Адносіны да вайсковай павіннасьці . . . . . . . . . . . . . . .
10. Даныя аб праходжаньні службы . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
11. Адрас . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Подпіс асобы, якая дае зьвесткі . . . . . . . . . . . . .

„ “ . . . . . . . . . . . . 193 г.

Подпіс адміністрацыі, якая сьведчыць правільнасьць зьвестак.

Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭС БССР. Зак. № 354. Тыр. 10000 экз. Галоўлітбел № 294.